№217 (2278)

Пятніца, 11 лістапада 2005 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

ДЛЯ РЕКЛАМНЫХ ЦЕЛЕЙ «НАРОДНАЯ ВОЛЯ»

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +5...+7, сонечна, без ападкаў, уначы — +3...+5, дождж; у Брэсце ўдзень — +7...+9, сонечна, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +5...+7, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +5...+7, сонечна, без ападкаў, уначы — +3...+5, дождж; у Гомелі ўдзень — +6...+8, сонечна, уначы — +1...+3, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +5...+7, сонечна, без ападкаў, уначы — +2...+4, дождж.

*www.meteo.by*

**БЛІЦ-АПЫТАННЕ**

*Як мы паведамлялі, па абсалютна дробязных прычынах "Белпошта" прыняла рашэнне не ўключаць "Народную волю" ў падпісны каталог на першае паўгоддзе 2006 года. Акрамя нашай газеты, у гэты спіс патрапілі газеты "Салідарнасць" і "Згода".*

# Што стаіць за рашэннем «Белпошты»?

*— з такім пытаннем мы звярнуліся да розных людзей.*

***Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ, галоўны рэдактар газеты «Салідарнасць»:***

— Калі б улады былі абыякавыя да нашай газеты, то на нас, з нашым адносна невялікім тыражом, проста не звярталі б увагі. Але прапагандысцкая свістапляска можа мець эфект толькі тады, калі слова праўды будзе адсутнічаць у прынцыпе. Адбываецца тое, што адбываецца. Таму зараз, напэўна, нас чакаюць наступныя этапы — Інтэрнет і самавыдат.

***Станіслаў ШУШКЕВІЧ, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:***

— Усё гэта азначае тое, што наша ўлада страціла ўжо ўсялякую прыстойнасць і апусцілася ніжэй нізкага. Баяцца праўды, баяцца інфармацыі. І хоць "Народная воля" — даволі памяркоўная, — і яе баяцца. Такой уладзе — канец. У Капенгагене, куды я хутка паеду, абавязкова раскажу еўрапейскай супольнасці пра гэты факт.

***Станіслава ГУЛЕВІЧ, заслужаная артыстка Беларусі:***

— За той дзяржаўнай ідэалагічнай прапагандай, якую штодзень забіваюць у вушы людзям, "Народную волю" можна было б і не баяцца, аднак, відаць, боязь ва ўлады такая, што яна выключае любыя варыянты данясення праўды да народа. Дурная ўлада не разумее, што людзі на самай справе якраз-такі ўсё і разумеюць. Пляваць яны хацелі на вас і вашу прапаганду! Проста большасць альбо напалоханыя сваім начальствам (не то сваім, не то — вышэйшым...), альбо жывуць па прынцыпе "мая хата з краю". І смяюцца над вамі!

***Мечыслаў ГРЫБ, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):***

— Усё робіцца для таго, каб праўдзівых газет у перадвыбарны час і блізка не было побач з людзьмі. Яны баяцца любой праўды і робяць усё магчымае і немагчымае, нават калі трэба пераступіць праз закон, каб людзі гэтай праўды не ведалі.

***Лявон ВОЛЬСКІ, лідэр гурта "Н.Р.М.":***

— Рабіць такія рэчы — гэта вялікая памылка з боку дзяржаўных чыноўнікаў. Па вялікім рахунку, любы рэжым у любой сітуацыі можна рабіць прывабным у вачах міжнароднай грамадскасці. А такія захады, якія, да слова, амаль нічога не даюць, надаюць дзяржаве страшны імідж. Я не ведаю адказу на пытанне: "навошта?".

***Сяргей КАЛЯКІН, першы сакратар Партыі камуністаў Беларускай:***

— Я абсалютна ўпэўнены, што "Белпошта" тут ні пры чым. Ім далі каманду — каманду выканалі. Ідзе звычайная зачыстка інфармацыйнага поля напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года. Гэта гаворыць аб слабасці ўлады, якая не можа і не ўмее размаўляць са сваімі апанентамі на нармальнай мове. Яна размаўляе толькі на мове рэпрэсій. Улада баіцца нават такога рэальнага факта, што ўсё ж такі ёсць людзі, якія думаюць і выказваюцца інакш.

***Святлана СМОЛЬСКАЯ, студэнтка Белдзяржуніверсітэта:***

— Я найперш думаю сваёй галавой. Тое, што газетам не даюць даходзіць да чытачоў, гэта, безумоўна, дрэнна, аднак не смяротна. Я маю на ўвазе чытачоў. Тыя, хто думае, што я не знайду праўдзівую інфармацыю, калі зашчымяць газеты, — людзі альбо цёмныя, альбо недалёкія.

**Апытанне праводзіў Алесь СІВЫ.**

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

# ...І раптам Федарцоў падае пратэст

*Вярхоўны суд Беларусі спачатку абавязаў Белтэлерадыёкампанію папрасіць прабачэння ў грамадскага актывіста са Слоніма Міхася Варанца, а пасля першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда А.Федарцоў падаў пратэст на рашэнне Першамайскага суда Мінска і Мінскага гарадскага суда*

Гісторыя аб тым, як кіраўнік грамадскага аб'яднання "Воля да развіцця" Міхась Варанец выйграў суд у БТ, даўняя і добра вядомая чытачам "Народнай волі".

Як раней паведамляла наша газета, 16 сакавіка 2004 года ў праграме "Панарама" Першага нацыянальнага тэлеканала быў паказаны сюжэт пра нібыта няўплату грамадскім аб'яднаннем "Воля да развіцця" (г.Слонім) падаткаў з праекта Праграмы TACIS Еўрапейскага Саюза. У сюжэце сцвярджалася, што на гэтыя грошы кіраўнік аб'яднання Міхась Варанец "стварыў так званы рэсурсны цэнтр", і, *"калі замежныя фонды не падтрымаюць фінансава гора-прадпрымальніка, яго падазроная дзейнасць на гэтым спыніцца"*.

Міхась Варанец палічыў, што сюжэт, паказаны БТ, абразіў яго, і вырашыў абараняць свой гонар, а таксама годнасць і дзелавую рэпутацыю ў судзе.

Суд Першамайскага раёна Мінска задаволіў іск Міхася Варанца. БТ на працягу 10 дзён павінна было абвергнуць інфармацыю, што быццам бы Варанец фінансаваў беларускую апазіцыю і не змог бы працаваць без падтрымкі Захаду. Белтэлерадыёкампанія мусіла таксама аплаціць усе судовыя выдаткі арганізацыі "Воля да развіцця" і асабіста Міхасю Варанцу, звязаныя з вядзеннем гэтай справы.

Трэба адзначыць, што ў прымусовым парадку гэтыя грошы БТ усё ж такі вярнула Міхасю Варанцу, а таксама пералічыла на рахунак грамадскага аб'яднання. А вось прасіць прабачэння не спяшалася. Спачатку тэлевізіёншчыкі абскардзілі рашэнне суда Першамайскага раёна ў Мінскім гарадскім судзе. А калі той пакінуў рашэнне Першамайскага суда ў сіле, БТ звярнулася ў Вярхоўны суд.

5 жніўня 2005 года Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь не задаволіў наглядную скаргу Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі і пакінуў у сіле рашэнне суда Першамайскага раёна Мінска і Мінскага гарадскога суда. Аднак прабачэння ў Міхася Варанца БТ усё роўна не папрасіла. І вось, здаецца, стала вядома, чаму.



*Яшчэ ў жніўні Міхасю Варанцу здавалася, што з дапамогай суда ён прымусіць Беларускае тэлебачанне папрасіць у яго прабачэння.*

20 кастрычніка 2005 года першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь **А.Федарцоў** падаў пратэст на рашэнне суда Першамайскага раёна Мінска, называючы яго незаконным і неабгрунтаваным. Падставамі для з'яўлення такога пратэсту, сцвярджае Федарцоў, стаў той факт, што *"прыведзеныя выказванні журналіста Мельячэнкі М.М., якія суд прызнаў не адпавядаючымі сапраўднасці, заснаваны на інфармацыі начальніцы ІМПЗ Міско А.С., маюць характар меркавання, бо ўтрымліваюць словы "магло быць" і "мяркуючы па ўсім"*.

Міхась Варанец даслаў у Вярхоўны суд свае пярэчанні. Але, як кажа сам, *"прэцэдэнта не будзе". "Я думаю, што пры цяперашняй уладзе не дачакаюся прабачэння ад БТ,* — кажа ён. — *Калегія Мінскага гарадскога суда ўжо задаволіла пратэст Федарцова. Вы толькі ўявіце сабе — Вярхоўны суд адмяняе амаль сваё ж рашэнне!*

*Я ўпэўнены, што вінаватыя рана ці позна ўсё роўна будуць пакараныя".*

Дарэчы, у сумнавядомай гісторыі з іскам з боку былога старшыні Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова да "Народнай волі", нашы адвакаты таксама звярталі ўвагу на тое, што вядомая тэлевядучая Элеанора Язерская ў сваім інтэрв'ю не сцвярджала, а меркавала, што спадар Рыбакоў развaліў БТ і ён нясе адказнасць за тое, што адбываецца ў калектыве з людзьмі. І ў тым матэрыяле таксама прысутнічала слова "говорят". Але на довады "Народнай волі" ні Вярхоўны суд, ні першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда ўвагі не звярнулі. Па судовым рашэнні рэдакцыя выплаціла Рыбакову 50 мільёнаў беларускіх рублёў. Пасля рашэнняў раённага і гарадскога судоў старшыня Белтэлерадыёкампаніі хутка быў арыштаваны за хабар і злоўжыванні службовым становішчам...

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**ДЫПКУР'ЕР**

## Адстаўка пасла прынятая

**Як перадае Радыё Свабода, позна ўвечары 8 лістапада польскія ўлады прынялі адстаўку амбасадара Польшчы ў Беларусі Тадэвуша Паўляка.**
**Міністэрства замежных спраў Польшчы афіцыйна пацвердзіла, што адстаўка прынята і ў хуткім часе будзе вядома імя пераемніка Паўляка на гэтай пасадзе.**

Прэс-сакратар польскага МЗС Аляксандр Хецька заявіў Радыё Свабода, што нягледзячы на надзвычайную занятасць і ўдзел у пасяджэнні ўрада, міністр замежных спраў Польшчы Стэфан Мелер знайшоў час, каб прыняць рашэнне ў справе Тадэвуша Паўляка. *"Міністр паведаміў мне, што звернецца да прэзідэнта з просьбай адклікаць амбасадара Паўляка з Беларусі. Пакуль не вядома, хто яго заменіць, але я думаю, што рашэнне ў справе кандыдатуры будзе хутка прынята".*

Хаця прызначэнне новага амбасадара справа даволі доўгая, паводле ягоных слоў, гэтым разам усё павінна быць зроблена больш хутка.

МЗС заяўляе, што Тадэвуш Паўляк адкліканы "па ўласным жаданні", і не паведамляе ніякіх падрабязнасцяў. Аднак паводле меркавання некаторых назіральнікаў, на рашэнне Тадэвуша Паўляка пайсці ў адстаўку маглі мець уплыў шматлікія крытычныя артыкулы ў польскай прэсе на ягоны адрас, дзе пасла крытыкавалі за тое, што ён працуе неэфектыўна, засяроджваецца на кантактах з афіцыйнымі асобамі, ігнаруючы апазіцыю і грамадскія арганізацыі.

Па другой версіі, прычынай адстаўкі стаў канфлікт паміж паслом і другім сакратаром пасольства Анджэем Чухрытам. Чухрыта абвінаваціў Паўляка ў бяздзейнасці і ў знак пратэсту падаў у адстаўку, а амбасадар заявіў, што другі сакратар папросту дрэнна выконвае свае абавязкі.

Між тым былы намеснік амбасадара Польшчы ў Беларусі Марэк Буцька лічыць, што адстаўка Тадэвуша Паўляка — гэта першы крок да змены палітыкі Польшчы ў дачыненні да Беларусі.

**Алег СНОЎ.**

## Савет Еўропы пагражае замарозіць рахункі беларускіх чыноўнікаў

**І абяцае вярнуцца да гэтага і іншых пытанняў у студзені 2006 года**

Днямі ў Брусэлі адбылася сустрэча міністраў замежных спраў Еўрасаюза. Гадзіну еўрапейскія міністры абмяркоўвалі сітуацыю ў Беларусі. Вынікам такога беспрэцэдэнтнага абмеркавання стала прыняцце сумеснай заявы. У большай ступені яна тычыцца прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў 2006 годзе.

У заяве нагадваецца, што кастрычніцкі рэферэндум, які дазволіў Лукашэнку ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, Венецыянская камісія Савета Еўропы прызнала нелегітымным. Калі прэзідэнцкія выбары будуць непразрыстымі і несвабоднымі, адзначаецца ў дакуменце, калі на іх не будуць дапушчаны міжнародныя назіральнікі, тады спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза, будзе пашыраны. Міністры таксама заявілі пра гатоўнасць "прыняць дадатковыя абмежавальныя захады". У прыватнасці, міністр замежных спраў Вялікабрытаніі **Джэк Стро**, які вёў пасяджэнне, сказаў: *"У выпадку няздольнасці выконваць міжнародныя стандарты праект рэзалюцыі прадугледжвае такія захады, як замарожванне рахункаў і візавая забарона для адпаведных асоб".*

Аднак камісар Еўрапейскай камісіі ў справах замежнай палітыкі Беніта Ферэра-Вальднер заявіла, што магчымыя санкцыі супраць асобных беларускіх чыноўнікаў не павінны кранаць эканоміку краіны. *"Вельмі важна не рабіць крокаў, якія могуць пагоршыць жыццё насельніцтва",*— падкрэсліла яна.

У заяве еўрапейскіх міністраў зазначана, што Савет Еўропы вітае рашэнне Генсакратара ЕС Хаўера Саланы накіраваць да канца гэтага года ў Беларусь асабістага прадстаўніка, а таксама рашэнне Еўракамісіі аб адкрыцці ў 2005 годзе ў Мінску прадстаўніцтва Еўракамісіі.

Заяву міністраў беларускія дэмакраты ўспрынялі станоўча. На іх думку, гэта яшчэ адно пацвярджэнне таго, што зараз становішча ў Беларусі з'яўляецца галоўнай знешнепалітычнай праблемай Еўрасаюза.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Неўязны Чаргінец

Дзярждэпартамент ЗША адмовіў ва ўязной візе ў ЗША дэпутату верхняй палаты Нацыянальнага сходу Мікалаю Чаргінцу, які збіраўся ўдзельнічаць у чарговай сесіі генеральнай асамблеі ААН.

Як сцвярджае Мікалай Чаргінец, у візе яму адмоўлена на той падставе, што год таму, прыехаўшы на сесію ААН, ён таксама працаваў назіральнікам на выбарах прэзідэнта ЗША. Нібыта гэта ўспрынята Штатамі як супярэчанне мэце ягонага прыезду і патлумачана так, нібыта ён увёў у зман мясцовыя ўлады.

Сам беларускі палітык лічыць, што ніякага парушэння не было.

У Пасольстве ЗША ніякіх каментарыяў па гэтай сітуацыі не даюць. Там гавораць, што візавыя пытанні не каментуюць.

**Ул.інф.**

**ЗАКУЛІССЕ**

# «Смір-р-рна!»

*Днямі А.Лукашэнка ўнёс быццам бы "неістотныя" змяненні і дапаўненні ў некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях прыпынення паўнамоцтваў і адхілення ад пасады. У прыватнасці, гаворка ідзе аб змяненнях і дапаўненнях у законы аб Канстытуцыйным судзе, аб гаспадарчых судах і ў Крымінальна-працэсуальны кодэкс.*

Згодна з падпісаным законам №53-З, цяпер *"прыпыненне паўнамоцтваў суддзі Канстытуцыйнага суда ажыццяўляецца прэзідэнтам"* (раней гэтае пытанне вырашаў Канстытуцыйны суд), пры гэтым *"рашэнне аб прыпыненні паўнамоцтваў суддзі Канстытуцыйнага суда прымаецца безадкладна пры выяўленні падстаў да іх прыпынення"*. Адначыць паўнамоцтвы суддзі Канстытуцыйнага суда, зразумела, таксама можа толькі *"прэзідэнт"*, хаця яшчэ да нядаўняга часу гэта было ў кампетэнцыі Канстытуцыйнага суда.

Гэта ж самае датычыцца і суддзяў гаспадарчых судоў, паўнамоцтвы якіх будуць прыпыняцца не *"загадам старшыні Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь"*, а *"прэзідэнтам"*.

І яшчэ цяпер *"для адхілення ад пасады асоб, пасады якіх уключаны ў кадравы рэестр кіраўніка дзяржавы"*, недастаткова санкцыі пракурора альбо рашэння суда, бо адхіленне гэтых асоб з пасады *"дапускаецца толькі са згоды прэзідэнта, калі гэтыя асобы ва ўстаноўленым парадку не адхіленыя ад пасады"*.

Былы суддзя Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь **Міхаіл Пастухоў** перакананы, што гэтыя рашэнні выходзяць за межы канстытуцыйных паўнамоцтваў прэзідэнта краіны.

*"Апошнім часам назіраецца тэндэнцыя неабгрунтаванага пашырэння паўнамоцтваў прэзідэнта ў самых розных галінах,* — гаворыць Пастухоў. — *Гэта тычыцца ў тым ліку і судовай сферы. Зараз Лукашэнка зрабіў замах на самае святое, на сэрца судовай улады — на кадры...*

*Наколькі я памятаю, пытанне аб прыпыненні паўнамоцтваў суддзяў наогул у практыцы ні разу не ўзнікала. Хаця пэўныя падставы і нават спробы былі, аднак я не памятаю ніводнага прэцэдэнта, калі былі б прыпынены з нейкай нагоды паўнамоцтвы суддзяў вышэйшых судоў. Увесь час гэта было справай выключна саміх суддзяў: ёсць кваліфікацыйныя калегіі, якія могуць прымаць падобныя рашэнні. Зараз жа пытанне пастаўлена ў новай плоскасці.*

*Калі ўвогуле разважаць аб прыпыненні паўнамоцтваў нейкіх службовых асоб, арганізацый, прыпыненне дзейнасці, напрыклад, рэдакцый сродкаў масавай інфармацыі, што мае даволі шырокую практыку — гэта, мне падаецца, квазі-юрыдычная мера. Умоўна кажучы, яна балансуе паміж жыццём і смерцю. Гэта не ліквідацыя, а прыдушэнне. Пад гэтай мерай хаваюцца факты самавольства, суб'ектывізму, прадузятага стаўлення. Калі б суддзі самі вырашалі пытанне аб прыпыненні паўнамоцтваў, яны б рабілі гэта абгрунтавана, бо ведалі чалавека, якому аб'яўлялі апошняе кітайскае папярэджанне. Але сёння кіраўнік дзяржавы наўпрост умешваецца ў судовую дзейнасць. А гэта пярэчыць прынцыпу падзялення ўлады, які з'яўляецца асноватворным для любой сучаснай дзяржавы. І самае галоўнае — выходзіць за межы канстытуцыйных паўнамоцтваў прэзідэнта, чым бы гэта ні тлумачылася..."*

Дарэчы, згодна з Канстытуцыяй, *"Канстытуцыйны суд фарміруецца ў колькасці 12 суддзяў з высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне права, як правіла, маючых вучоную ступень"*. Зараз тры судзейскія пасады ў Канстытуцыйным судзе Беларусі вольныя, прычым адна з іх вызвалілася амаль тры гады таму! Апошняе месца суддзі стала вакантным у жніўні, калі скончыўся тэрмін паўнамоцтваў **Георгія Шышко**, якому споўнілася 70 гадоў. Па нашай інфармацыі, старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі **Рыгор Васілевіч** некалькі разоў спрабаваў нагадаць пра тое, што суддзяў трэба ўсё ж такі прызначыць, аднак у кулуарах Адміністрацыі прэзідэнта расказваюць, што ад яго проста адмахнуліся — маўляў, ёсць больш складаныя і актуальныя пытанні...

Хаця ў Канстытуцыйным судзе са спасылкай на "Закон аб Канстытуцыйным судзе" ад 30 сакавіка 1994 года кажуць, што *"членамі Канстытуцыйнага суда з'яўляецца старшыня суда, ягоны намеснік і 10 суддзяў. Канстытуцыйны суд правамоцны прымаць рашэнні і прыступае да працы, калі ў яго склад прызначана (выбрана) не менш, чым за 8 членаў Канстытуцыйнага суда"*.

Што тычыцца змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-працэсуальны кодэкс, то цяпер, відаць, пэўныя праблемы могуць узнікнуць у некаторых міністраў, бо без адпаведнага рашэння А.Лукашэнкі яны не змогуць адхіліць ад пасады кіраўнікоў падначаленых ім структур. Нават калі на гэта будзе адпаведнае рашэнне суда альбо санкцыя пракурора. Напрыклад, былі выпадкі, калі міністр адхіляў ад пасады чалавека, а затым спецыяльная камісія на чале з віцэ-прэм'ерам правярала, чаму яго звольнілі. І потым аднаўляла яго на працы! Некаторыя міністры абураліся паміж сабой: маўляў, з нас патрабуюць, нас робяць крайнімі, але мы не можам самастойна прыняць нават самых элементарных рашэнняў!

*"У так званы кадравы рэестр кіраўніка дзяржавы ўваходзяць усе кіраўнікі органаў дзяржаўнай улады, акрамя тых, хто падпарадкоўваецца ўраду,* — тлумачыць Міхаіл Пастухоў. — *У свой час Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне аб тым, што прэзідэнт не можа ўключаць у кадравы рэестр асоб, якіх прама не прызначае. Аднак рашэнне суда засталося нявыканаым. І сёння Лукашэнка распараджаецца фактычна ўсімі кадрамі ў краіне...*

*На нашых вачах адбываецца цэнтралізацыя ўлады, узмацненне жорсткасці ўлады. Усе чыноўнікі стаяць па стойцы "Смір-рна!".*

*Ідзе фарміраванне чыста прэзідэнцкага праўлення. Ні пра які падзел улады гаварыць не прыходзіцца..."*

**Марына КОКТЫШ.**

**НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРАПАНОВА**

## Трэці і чацвёрты тэрміны А.Лукашэнку гарантаваны, калі ён...

Калі ён выканае наступнае:

— *Верне* беларускаму народу, незалежнай дзяржаве Беларусь адвечныя дзяржаўна-гістарычныя сімвалы: *герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.*

Спасылка: прыклад Расіі — вярнула імперскі дзвюхгаловы герб і бела-сіне-чырвоны сцяг, і ўсе дзяржавы — былыя рэспублікі СССР таксама вярнулі нацыянальныя гістарычныя сімвалы.

— *Верне беларускаму народу беларускую мову:* артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года — аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове; *адновіць выкананне Закона* аб мовах 1990 года і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў, прынятай у 1990 годзе; выкананне патрабаванняў установленага 10-гадовага тэрміну для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця.

— *Усе публічныя выступленні яго будуць на беларускай мове* (спачатку няхай толькі нават з выкарыстаннем пісьмовага тэксту). Праз пару месяцаў усё чынавенства ўладнай вертыкалі загаворыць па-беларуску.

— *Верне ўсім школам статус беларускамоўных,* які быў нададзены да 1994 года.

— *Верне народу яго гістарычную памяць і нацыянальную свядомасць* праз асветніцтва з дапамогай усіх СМІ і беларускамоўную сістэму выхавання і навучання.

— *Павядзе "свой народ" па шляху еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі з захаваннем правоў чалавека, вяршэнствам законаў.*

— *Установіць дзяржаўную мяжу з Расіяй, як гэта зроблена з астатнімі суседзямі.* Дом з трох сцен — гэта толькі прысценак іншага дома, а не самастойны дом.

Перакананы, што пры выкананні гэтых лёсавызначальных умоў усе нацыянальна-патрыятычныя, дэмакратычныя партыі і рухі і галоўнае — Гісторыя Беларусі пагодзяцца нават не на 5, а на 10 наступных год прэзідэнцтва А.Лукашэнкі.

Нехта можа сказаць: "Дык што, калі А.Лукашэнка выканае ўсе гэтыя ўмовы, яму даруюцца ўсе яго іншыя грахі?" Гэтае пытанне зараз, мне здаецца, не трэба нават падымаць. На яго адкажа гісторыя.

**Мікола САВІЦКІ, прафесар, ветэран.**

*Мінск.*

ПОЛИТИЧЕСКИЕ ДИАЛОГИ: ВЯЧЕСЛАВ ОРГИШ — ПАВЕЛ ШЕРЕМЕТ

# Милинкевич, Козулин или «черт из табакерки»?

*О том, когда появятся в Минске танки Таманской дивизии*

*(Окончание. Начало в №№215—216.)*

## Он надоел там всем

**— Согласитесь, Павел, российско-белорусские отношение приняли сложный, запутанный характер, чреваты непредсказуемыми поворотами. И все из-за позиции белорусского лидера, который расточает много красивых слов об интеграции, но при этом гнет свою линию, которая преследует иные, далеко идущие цели. Мало кто сомневается, что "главный белорус" мысленно примеряет на себя шапку Мономаха. Многие российские политики открыто говорят о том, что, выторговав у Кремля поддержку на выборах 2006 года, белорусский начальник после все равно покажет комбинацию из трех пальцев. Если дело обстоит именно так, не проще ли российской стороне сделать соответствующие выводы и, не дожидаясь выборов 2006 года, вмешаться и сыграть более активно в белорусском политическом процессе?**

— Что касается вмешательства России в белорусские дела, то это один из мифов, будто у россиян много рычагов давления на Беларусь. Как неправильным является утверждение, что Москва держит Лукашенко, таким же ошибочным является и то, что Москва легко может его сменить. К сожалению, рычагов влияния России на Беларусь очень мало. Практически невозможно отрубить газ, построить границу, ибо это будет означать экономическую и политическую войну. Никто на это не пойдет. Если бы он тут концлагеря открыл, поляков начал расстреливать, тогда да — и газ бы отключили, и войну объявили. Ничего не происходит такого, чтобы предпринимать радикальные шаги. Что, спецоперацию проводить, "Альфу" сюда посылать? Как только россияне увидят, что оппозиция достаточно сильна, как только увидят, что на улицу выходит критическая масса людей, я вам гарантирую, что позиция Москвы кардинальным образом поменяется на жестко антилукашенковскую, он надоел там всем.

**— Говорят, что господин Путин с большим трудом переносит белорусского визави?**

— Все убедились, что белорусская власть постоянно обманывает, издевается, оскорбляет российскую власть, и с этим никто в Кремле мириться не хочет. Но без белорусов никто не будет делать революцию.

**— А инкорпорировать Беларусь против воли белорусов будет? Насколько все-таки соответствуют действительности разговоры о том, что Россия, движимая имперскими соображениями, стремится инкорпорировать нашу страну? Быть может, напрасно эта тема тревожит сознание значительной части белорусского общества и никакого призрака инкорпорации нет в природе?**

— Точка зрения, согласно которой имперские подходы, имперские традиции в России существуют, не нова. Мол, сдерживает имперские планы российского государства только недостаток силы, отсутствие ресурса для внешней экспансии (дай Бог, чтобы сохранить то, что есть).

Но при этом есть достаточно аргументированная точка зрения (я часто ее слышу), что пройдет еще некоторое время и Беларусь "сама к нам упадет как перезревший плод". Огромное количество белорусов работает в России, экономические связи очень тесные, политические и культурные корни Лукашенко подорвал, язык уничтожается. Конечно, значительная часть белорусов выступит против инкорпорации. Но, как и в XIX, в XX веке, они уедут в Америку или Европу, и сопротивление быстро заглохнет.

Есть точка зрения, что Беларусь может быть разорвана между двумя цивилизациями, между Россией и Европой. Если Россия продолжит свое поступательное развитие (как сейчас), а Беларусь продолжит свою экономическую и идеологическую стагнацию, которая сопровождается невиданной демографической деградацией, то через 5 или 10 лет белорусы могут раствориться в российской или европейской массе.

**— Иначе говоря, если аномальное развитие Беларуси продолжится, угроза ее существованию будет возрастать.**

— Если Россия будет становиться богаче, а Беларусь — беднее, то в какой-то момент бедная Беларусь в самом деле упадет к ногам богатой России, как перезревший плод. Уже сейчас немалое количество людей согласны с этим.

## Символ отрицания режима

**— Давайте взглянем на эту проблему под другим углом зрения. Мы все-таки выяснили, что Россия худо-бедно хочет приближаться к европейскому культурно-историческому контексту. Но европейский цивилизованный контекст не склонен поощрять расширение империи. Напротив, это постепенное расширение ареала присутствия демократических ценностей...**

— В России хотят дружить с Европой. Но понимают, что вступление Российской Федерации в Европейский Союз невозможно, Европа не проглотит такой огромный кусок. Поэтому европейские политики говорят: пусть Россия будет дружественной Европе, но все-таки отдельным политическим образованием. То есть это некий карт-бланш на самостоятельное плавание. Отсюда сейчас такие активные переговоры Москвы с Казахстаном об интеграции. Отсюда все разговоры на эту тему с Беларусью. Номинально Беларусь, может, и останется самостоятельной, но культурно она рискует быть поглощенной. Такая опасность существует, такие планы есть. Не в смысле конкретного проекта, нет. Есть такие научные, политологические выкладки. Если в России будут жить хорошо — один сценарий, плохо — другой сценарий. Если Беларусь продолжит беднеть, а диктаторский режим укрепляться — будет один сценарий. Если в Беларуси произойдет смена режима и смена правящих политиков — будет другой сценарий.

Следующий год, а потом и 2007 год будут судьбоносными, роковыми, пограничными для белорусского государства и для белорусского общества...

**— Мы возвращаемся к теме выборов. Поговорим еще о том, какие возможности у демократической общественности переломить ситуацию в 2006 году. Некие шаги в этом направлении сделаны. Назван единый претендент от демократической общественности. Не все, кто хочет перемен в Беларуси, пока еще согласились с тем, что "единым" будет то лицо, которое названо на Конгрессе демократических сил. Допустим, что через 2—3 месяца оппозиция сумеет достичь окончательного единства и консенсуса. Но этого недостаточно. Остается еще внешний фактор, который в значительной степени будет определяющим в ходе борьбы за власть в Беларуси. На роль внешнего игрока здесь активно претендует как Запад, так и Москва. По ряду признаков Россия все-таки значительно больше проросла в белорусскую политику, чем Запад. Я бы хотел спросить: на каких условиях российская сторона готова принять выбор оппозиции (я имею в виду выбор "единого"), ведь для Кремля, российских элит отнюдь не все равно, кто будет после 2006 года руководить Беларусью и как здесь будут продвигаться российские интересы?**

— Во-первых, я не разделяю пессимистических оценок по поводу перспектив 2006 года. Я вижу, что на выборах 2006 года есть колоссальный шанс поменять ситуацию. Положение Лукашенко, если рассматривать белорусскую ситуацию в целом, с каждым месяцем ухудшается. Любой претендент, который выступит против него, в том числе "единый", это в большей степени символ отрицания режима, и люди будут голосовать за этот символ. Но даже если в 2006 году не удастся фактически и формально победить, то это будет уже стопроцентное начало, финальный акт белорусского режима. В течение каких-то ближайших перспектив (года-двух после выборов) автократия рухнет. 2006 год — это уже не эксперимент и не учебный год. Это уже реальная возможность изменить ситуацию. Это не 2001 год, когда все шли на выборы, но понимали, что победить будет невозможно.

Во-вторых, что касается кандидата, то выбор в качестве "единого" Милинкевича в Москве восприняли спокойно. Есть политологи, которые утверждают, что он кандидат Партии БНФ, но их голос не так силен. У оппозиции на сегодняшний день есть два сильных кандидата: это Милинкевич и Козулин. И к одному, и ко второму относятся спокойно и позитивно. Козулина, конечно, в Москве принимают лучше. Милинкевича лучше принимают в Европе и Америке. Но оба они сильные кандидаты, которые могут сыграть серьезную игру.

Но, на мой взгляд, и первый, и второй, и, вполне вероятно, кто-то третий — это все символы. Люди будут голосовать не столько за них, сколько против власти. И Москва, я думаю, примет любого кандидата.

**— Значит, Вы полагаете, что проект "Милинкевич" и проект "Козулин" — это равновеликие проекты?**

— Если судить по каким-то чисто личным качествам, по какому-то политическому опыту, то Козулин, на мой взгляд, посильнее. Если рассматривать с сугубо идеологической позиции, то больше подходит Милинкевич. Однако еще раз отмечу, что и у одного, и у другого претендента есть сильные стороны.

## На кого сделает ставку Москва

**— Здесь важно, кому в конечном счете станет оказывать знаки внимания Кремль, российский истэблишмент. На сегодняшний день, помимо Милинкевича и Козулина, имеют виды на президентское кресло в Беларуси еще с десяток политиков. Не скрывают своих планов Леонов, Фролов, Ярошук и другие... Все они по-разному (кто больше, кто меньше) преуспели в соревновании за главный приз, по-разному видят пути достижения заветного результата. Но всем им, несомненно, присуще как минимум одно общее стремление — добиться, если можно так сказать, ласки Кремля. С этой целью они периодически наведываются в Белокаменную...**

— Кремль поддержит того кандидата, который продемонстрирует свою силу и влияние. Пока по популярности, по известности среди избирателей одинаково слабы и Милинкевич, и Козулин, и все остальные. Если к весне следующего года будет видно, что ситуацию лучше контролирует Козулин, все будут помогать Козулину, если увидят, что ситуацию лучше контролирует Милинкевич, все будут поддерживать его.

**— Независимо от окраски — бэнээфовской или социал-демократической?**

— Независимо от окраски. Хочу напомнить 1994 год. Был сильный кандидат от БНФ Зенон Пазьняк, был сильный кандидат от демократической интеллигенции Шушкевич, был мощнейший кандидат со всем административным ресурсом Кебич. Но это не помешало какому-то "черту из табакерки" триумфально победить вопреки всему. Поэтому на данный момент мы имеем Лукашенко, мы имеем Милинкевича, мы имеем Козулина, но это не значит, что не появится еще какой-то кандидат...

**— Понятно, что выборы будут носить жесткий характер, борьба будет идти, как говорится, не на жизнь, а на смерть. И здесь изначально важно, каковы условия этой борьбы. Сегодня ясно, что все ресурсы (административный, организационно-информационный) на стороне кандидата от власти. СМИ, Избирательный кодекс, избирательные комиссии нацелены на игру в одни ворота. Не разрушив этого явно недемократического, ненормального положения вещей, которое создано режимом, оппозиции ввязываться в борьбу бесперспективно. Власть нарисует необходимое количество процентов поддержки своего кандидата в любом случае, при любом раскладе голосования.**

**Прежде чем вступать в избирательную кампанию, оппозиции надо как минимум решить проблему объективности избирательных процедур, избирательного процесса и добиться доступа к СМИ. Это во-первых. И во-вторых, необходимо решить вопрос о законности участия самого Лукашенко в выборах 2006 года. Вот на этом направлении, что, с Вашей точки зрения, надо было бы предпринимать белорусской оппозиции, тем, кто хочет в Беларуси перемен?**

— Надо готовиться не только к выборам. То есть надо готовиться не столько к процессу голосования, сколько к процессу защиты своего выбора.

**— То есть к борьбе за власть в форме выборов?**

— Уже сейчас надо готовиться не только ко дню голосования, надо готовиться к событиям, которые последуют за голосованием. Для всех очевидно, что выборы вполне могут быть сфальсифицированы. Это показывают социологические опросы и предыдущие электоральные голосования. Все же знают и истинные результаты прошлогоднего референдума. Реальные цифры всем известны: и в Администрации президента, и в КГБ. Еще хуже будет ситуация в 2006 году. У оппозиции есть все шансы победить, но главное — как защитить эту победу? Защита победы, а также то, как вынудить власть признать победу оппозиции, — это главное.

**— То есть противостояние оппозиции и власти после выборов неизбежно...**

— Не исключаю.

**— Таким образом, мы пришли к выводу о том, что президентские выборы 2006 года будут неизбежно сопровождаться, образно выражаясь, "украинизацией" белорусской политической ситуации.**

— Революция реальна. Возможно, кровавая. Но если прольется хоть капля крови, это будет безусловный конец режима. Послезавтра, даже на следующий день после крови здесь будут либо самолеты НАТО, либо танки Таманской дивизии. Это сто процентов.

**— Драматический получается сценарий, хотя финал у него вполне обнадеживающий. Будем, однако, надеяться, что победа демократии в Беларуси обойдется без насилия.**

— Дай Бог.

## Правяраюць узровень зарплаты

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Беларусі па Мінску пачала праверку прадпрыемстваў краіны, якія выплачваюць сваім работнікам зарплату ніжэй пражытачнага мінімуму.

Адпаведнае распараджэнне днямі даў старшыня Мінгарвыканкама Міхаіл Паўлаў.

Як адзначыў Міхаіл Якаўлевіч, "рэгістрацыю прадпрыемстваў ажыццяўляе гарвыканкам, таму ён і павінен даць ацэнку, ці патрэбны сталіцы прадпрыемствы, якія не выплачваюць работнікам годны заробак. На гэтым тыдні неабходна правесці аналіз працы такіх прадпрыемстваў, сістэматызаваць і ўнесці прапановы па змяншэнні стратнасці вытворчасці альбо іх ліквідацыі".

Па даных начальніка інспекцыі МПЗ па Мінску Віктара Дашкевіча, у сталіцы каля 16 тысяч чалавек атрымліваюць заработную плату ніжэй за пражытачны мінімум. Як правіла, нізкі ўзровень аплаты працы існуе на прадпрыемствах недзяржаўнага сектара эканомікі, якія працуюць нерэнтабельна і з колькасцю персаналу да 5 чалавек. У гэтай сувязі страты гарадскога бюджэту ад паступлення падаходнага падатку штомесяц складаюць 166 мільёнаў рублёў, за дзевяць месяцаў бягучага года — 1,5 мільярда.

Нагадаем, што з 1 лістапада 2005 года ў сярэднім на душу насельніцтва пражытачны мінімум складае 150.800 рублёў.

## Затрыманы алказлачынцы

Камітэтам дзяржбяспекі Беларусі выкрыта дзейнасць міжнароднай злачыннай групоўкі, якая арганізавала пастаўкі з Расіі ў Беларусь буйных партый фальсіфікаванай каньячнай прадукцыі.

Як паведамілі ў цэнтры грамадскіх сувязяў КДБ, у выніку аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў затрыманы на месцы злачынства ў момант разгрузкі тавара грамадзяне Малдовы і Расіі. У ходзе агляду месца здарэння ўсталявана, што партыя фальсіфікаванага каньяку "Белый аист" у колькасці 4000 бутэлек з падробнымі акцызнымі маркамі Рэспублікі Малдова знаходзілася ў грузавым аддзяленні аўтамабіля "ЗИЛ" з расійскімі рэгістрацыйнымі нумарамі. Тавар перавозілі пад выглядам партыі камбікармоў.

Акрамя таго, у грузавым аддзяленні было знойдзена восем пяцілітровых ёмістасцяў са шклоачышчальнікам "Кирюша" і каньячная дабаўка, якая выкарыстоўваецца пры саматужнай вытворчасці алкагольнай прадукцыі.

Узбуджана крымінальная справа, члены злачыннай групоўкі змешчаны ў следчы ізалятар.

ІНІЦЫЯТЫВА

# Час трубіць збор... пенсіянерам

*"Народная воля" ўжо двойчы інфармавала сваіх чытачоў пра стварэнне ў краіне грамадскага аб'яднання беларускіх пенсіянераў. Сёння ў гэтую тэму паглыбляецца пісьменнік **Васіль ЯКАВЕНКА**.*

**— Скажыце, калі ласка, каму канкрэтна належыць ініцыятыва стварэння аб'яднання беларускіх пенсіянераў?**

— Цяжка нават сказаць, але не мне. Яна выплыла як бы з самой гушчы жыцця. Добрыя людзі неяк папрасілі мяне ўвайсці ў ініцыятыўную групу, у аргкамітэт... Я не мог адмовіцца і ўвайшоў. У падтрымцы ідэі аб'яднання беларускіх пенсіянераў я адчуў сваю грамадзянскую адказнасць.

**— Што ўжо зроблена для рэалізацыі высакароднай задумы?**

— Праведзены сход прадстаўнікоў ініцыятыўных груп і створаны Аргкамітэт. Завадным (не ў крыўду няхай будзе сказана) маторам з'яўляецца інжынер Уладзімір Раманоўскі, чалавек складанага лёсу і эпахальна цікавы. Дарэчы, па некаторых гарадах Беларусі ў нас ужо раней былі заснаваны арганізацыі пенсіянераў, і яны заявілі пра сваё жаданне ўліцца ў наша аб'яднанне, што лішні раз сведчыць пра актуальнасць нашага кроку. Практычна распрацаваны праект Статута, і на парадку дня стаіць правядзенне Устаноўчага з'езда. На добры лад, з'езд пенсіянераў павінны б вітаць вышэйшыя ўлады...

**— Калі аб'яднанне пенсіянераў будзе створана, то якія асноўныя задачы яно возьме на сябе?**

— Гэта будуць клопаты людзей сталага і звышсталага веку пра свой сённяшні дзень і будучыню сваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў. Мне здаецца, што людзі старэйшага пакалення штосьці недагледзелі ў стварэнні ўмоў для нармальнага развіцця грамадства, такога грамадства, у якім усім, а калі не ўсім, то абсалютнай большасці грамадзян свяціла б шчасце пачуваць сябе паўнавартаснымі грамадзянамі і людзьмі. Сёння мы ходзім прычаўленыя калі не клопатам пра кавалак хлеба, то маральнай і духоўнай немаччу. І моладзь тут не выключэнне. Таму справай гонару аб'яднання пенсіянераў, я лічу, будзе не толькі адстойванне сваіх інтарэсаў, але і аналіз сацыяльна-прававой сітуацыі, з тым каб нешта змяніць альбо паправіць у нашым "стабільным" грамадстве.

**— Вы спадзяецеся на падтрымку Мінюста?**

— У гэтым выпадку мы спадзяемся на розум і такт улад. Не буду хаваць, мы ўсведамляем, што нам могуць адмовіць у афіцыйным прызнанні. Але... У кожным разе гэта будзе яшчэ адно выпрабаванне для тых, хто гэтак старанна гнюсіць і разбурае, разбурае і гнюсіць грамадзянскую супольнасць у краіне. Гэтая справа выводзіць некаторых нашых чыноўнікаў на мяжу вар'яцтва.

**— Васіль Цімафеевіч, хто ж, на Ваш погляд, узначаліць аб'яднанне беларускіх пенсіянераў? Калі не Вы, то хто яшчэ? У адной з газет выказалі здагадку, што зрабіць гэта збіраецца народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка.**

— Пра гэта гаварыць рана. Адно скажу: ні я, ні шаноўная і мілая Зінаіда Аляксандраўна не замахваемся на пасаду кіраўніка, хоць такая пасада можа зрабіць гонар кожнаму.

**— Тады скажыце некалькі слоў пра структуру ствараемай грамадскай арганізацыі?**

— Паводле праекта Статута, які будзе вынесены на з'езд, ствараюцца абласныя арганізацыі аб'яднання беларускіх пенсіянераў як юрыдычныя асобы. У раёнах іх пакуль не плануецца ставіць на юрыдычную аснову з-за цяжкасцяў, якія створаны ўладамі ў іх рэгістрацыі, у выдзяленні або арэндзе памяшканняў для офісаў і г.д. Але, думаю, гэта з'ява часовая.

**— Добра, Васіль Цімафеевіч. Уявім цяпер, што надыдзе час, калі пачнецца вылучэнне дэлегатаў на Устаноўчы з'езд. У сувязі з гэтым я хачу пацікавіцца: якія пытанні будуць абмяркоўваць пенсіянеры на сходах, апроч вылучэння дэлегатаў на з'езд?**

— Я раіў бы калегам-пенсіянерам ужо на гэтым арганізацыйным этапе абмеркаваць становішча, у якое яны пастаўлены нашымі ўладамі і самой рэчаіснасцю: што задавальняе, што — не. Абмеркаваць ды выпрацаваць свае прапановы, якія б прагучалі на з'ездзе.

Многіх хвалюе лёс нашых дзяцей і ўнукаў. Адным словам, працу варта распачынаць, зыходзячы з мэт і задач аб'яднання.

**— Нарэшце спытаю: ці ведаеце Вы, Васіль Цімафеевіч, дзе, у якіх краінах ужо створаны падобныя аб'яднанні пенсіянераў?**

— Ведаю... Пасля першай інфармацыі пра наша аб'яднанне, якое мы спрабуем заснаваць, прыйшоў ліст па электроннай пошце з Бельгіі. Жанчына піша, што яна блізка стаіць да падобнай арганізацыі ў іхняй краіне і што яны зацікаўлены ва ўстанаўленні кантактаў з намі. Мне ж вядома таксама, што і ў Расіі дзейнічае корпус пенсіянераў. Дарэчы, у іх там не проста грамадскае аб'яднанне, а партыя пенсіянераў. Не думаю, аднак, што гэта лепшы варыянт, а разам з тым пенсіянеры, аб'яднаўшыся, пачуваюць сябе больш бадзёра і больш упэўнена, адным словам, як людзі, а не нейкія там утрыманцы ці самотнікі, выкінутыя на сметнік грамадства.

**— І яшчэ: што вы скажаце на заяву-пратэст ветэранскай арганізацыі краіны, распаўсюджанай дзяржаўнымі СМІ ў адказ на вашу ініцыятыву.**

— Дарэмна і марна кіраўніцтва шаноўнай арганізацыі б'е ў хамут. На гэтую заяву яшчэ будзе адказ з нашага боку.

**Пытанні задаваў Арцём СМАЛЯЧКОЎ.**

СЛЫШАЛИ?

# В России-матушке обложили МАЗ «по матушке»

***Нешуточным скандалом завершилось посещение 2 ноября официальной делегации белорусских промышленников во главе с полномочным представителем президента Беларуси в Российской Федерации Василием Долголевым нижегородского ОАО "ГАЗ".***

Генеральный директор этого российского предприятия Алексей Баранцев в присутствии Долголева, около дюжины белорусских директоров и такого же количества журналистов ни с того ни с сего разразился нецензурной бранью в адрес руководства Минского автомобильного завода.

Очевидцы утверждают, что представители СМИ стояли буквально с открытыми ртами во время такой "приветственной речи" топ-менеджера российского завода. Баранцев не стеснялся в выражениях, называя руководство МАЗа "импотентами" и "мордами". Белорусы, как вежливые гости, проглотили пилюлю. Особенно громко "глотал", говорят, В. Долголев, попавший в весьма двусмысленное положение как руководитель группы.

Причем такое происходит не в первый раз. Около месяца назад генеральный директор "ГАЗа" в свою очередь в качестве гостя был на МАЗе. Тогда также не обошлось без скандала, который, правда, удалось замять.

Посещение Баранцевым МАЗа, который для белорусских властей служит этакой выставочной площадкой при визите в страну любых маломальски важных чиновников или делегаций из ближнего и дальнего зарубежья (например, совсем недавно там знакомился с достижениями белорусского предприятия и всей белорусской экономики в целом губернатор Московской области Борис Громов), обернулось, мягко говоря, критикой увиденного. Тогда выражение "довели завод до ручки" в лексиконе Баранцева чередовалось с куда более оскорбительным выражением. И вот, не получив в прошлый раз достойного ответа, топ-менеджер "ГАЗа" вновь продолжил свою словесную эквилибристику в отношении руководства белорусского предприятия.

Что касается причин, подвигших Баранцева не стесняться в выражениях, то здесь наши собеседники теряются в догадках. Ну разве может раздражать г-на Баранцева тот факт, что его белорусский коллега, генеральный директор РУП "МАЗ" Валентин Гуринович, в качестве служебного автомобиля использует не "Волгу"? Возможно, конечно, и может, но не в такой степени и не так оно должно проявляться на этом достаточно высоком уровне.

Куда больше причин у Баранцева "раздражаться" МАЗом, считают наши собеседники, по другому поводу.

МАЗ, получив на свою модернизацию из белорусского бюджета около 300 млн. (на период до 2010 года), сейчас демонстрирует значительно лучшую динамику развития, чем контролируемый Олегом Дерипаской нижегородский "ГАЗ". В состав последнего, как известно, входит группа "Русские автобусы", жестко конкурирующая с мазовским автобусным производством на российском рынке. "Русские автобусы" еле поспевают предлагать рынку конкурентные машины. На тот момент, когда они выставляют новинку, МАЗ уже производит свой аналог массовой серией. По этой причине за последние два года автобусы МАЗ выиграли почти все тендеры в российских городах-миллионниках. В качестве последнего примера выигранный МАЗом в августе текущего года тендер в г. Тольятти, который проводился на деньги Европейского банка развития и реконструкции. Согласно его итогам, Минский автозавод поставит в этот волжский город 100 автобусов на сумму 12,5 млн. евро. Единственная контрмера, которую "Русские автобусы" могут предложить в борьбе с МАЗом, так это попытка "перекупить" менеджеров автобусного подразделения МАЗа.

Что касается инцидента в Нижнем Новгороде, то пресс-секретарь МАЗа Валентин Лопан прокомментировал его следующим образом: *"Сложно что-либо комментировать — я не присутствовал при "событии". Определенный резонанс среди руководства МАЗа словесная эквилибристика господина Баранцева, безусловно, вызвала. Большинство из них склонно считать, что это — сознательно сделанный пиар-ход. Каковы его цели, покажет время. Мы со своей стороны будем предпринимать усилия для нормализации отношений. Они всегда были уважительными и партнерскими".*

Валентин Лопан отметил также, что нормальные рабочие отношения с работниками холдинга Олега Дерипаски сложились еще с того времени, когда они пытались включить в свой состав и Минский автомобильный завод. Но переговоры с собственником РУП "МАЗ" — белорусским Министерством промышленности — у "РусПромАвто" ничем не закончились. Для новой попытки "РусПромАвто" придется теперь как минимум публично извиниться перед белорусской стороной за своего менеджера.

**Петр СУДИЛОВСКИЙ,
www.belaruspartizan.org**

## Жывая птушка не прадаецца

Для прадухілення пранікнення вірусу птушынага грыпу на тэрыторыю Беларусі да 15 снежня бягучага года на ўсіх рынках Беларусі, уключаючы сталічныя, забаронены продаж жывой хатняй птушкі.

Акрамя таго, у краіну не імпартуюцца паўфабрыкаты і мяса птушкі, калі яны былі выраблены ў краінах, дзе зарэгістраваны выпадкі птушынага грыпу. Расійскі тавар, напрыклад, можна прывозіць толькі з Санкт-Пецярбурга, Ленінградскай і Калінінградскай абласцей. Асноўнае патрабаванне да пастаўшчыкоў — наяўнасць ветэрынарнага дакумента, які сведчыць пра якасць.

Нагадаем, што ў Мінску спецыялісты лабараторый санітарна-ветэрынарнай экспертызы працягваюць ажыццяўляць кантроль за продажам птушкагадоўчай прадукцыі на 15 рынках і 4 міні-рынках.

## Воін на дырыжаблі...

Беларуская армія павінна больш актыўна выкарыстоўваць магчымасці аэрастатаў і дырыжабляў, заявілі "Інтэрфаксу" ў Ваеннай акадэміі краіны. "Аэрастаты і дырыжаблі, якія ў свой час даволі актыўна выкарыстоўваліся ў Савецкім Саюзе, адышлі на другі план па прычыне часовай эйфарыі ад стварэння рэактыўных лятальных апаратаў", — адзначыў суразмоўца агенцтва ў акадэміі.

Між іншым беларускія вайсковыя спецыялісты ўпэўнены, што аэрастаты і дырыжаблі забыты незаслужана і зараз маюцца рэальныя магчымасці для іх адраджэння. Па словах суразмоўцы агенцтва, у межах саюзнай праграмы ў Ваеннай акадэміі Беларусі вядзецца праца па стварэнні шматмэтавага аэрастата разведвальнага дагляду.

РЕГІЁНЫ

## Пралёт паказчыкаў над Магілёўшчынай

У Магілёўскай вобласці няма ніводнага горада або раёна, дзе за дзевяць месяцаў гэтага года ў поўным аб'ёме былі б выкананы ўсе паказчыкі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця. Пра гэта заявіў старшыня Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта Барыс Батура на пасяджэнні аблвыканкама.

Паводле слоў старшыні камітэта эканомікі аблвыканкама М.Дудзінскага, за дзевяць месяцаў года ў вобласці ў цэлым выкананы ўсе прагнозныя паказчыкі, акрамя росту вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак і экспарту. На вёсцы асноўныя праблемы ўзніклі з ураджаем на прыватных падворʼях. На тэмпах экспартных паставак адбілася змяненне парадку збірання ПДК у гандлі з Расіяй і недапрацоўкі маркетынгавых службаў прадпрыемстваў.

Тым не менш Барыс Батура заявіў, што заданні пяцігадовага плана вобласць выканае па ўсіх паказчыках.

**Аляксей ЛЯШКОЎ,
БелаПАН.**

## ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

ИЧУП "Народная воля" сообщает, что Шимановская О.И., Груша И.М., Матейко В.П. не имеют никакого отношения к списку, опубликованному в "Народной воле" 3 мая 2005 года.

